Год I. Субота 31 сьнежня 1921 г. № 8.

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Беларусы! Усе на выбары, як адзін! Усе на абарону Бацькаўшчыны!

# Беларусы!

Дэлегацыя таго Беларускага З'езду, які адбыўся 11-12 сьнежня 1921 г. ў Вільні пабывала ў Варшаве—ў прадстаўнікоў вышэйшых Польскіх Уладаў і абгаварыла з гэтымі прадстаўнікамі ўсе тыя патрэбы беларускага жыцьця, дамаганьня нашага сялянства, згодна з пастановамі, якія былі вынесены з'ездам.

Дэлегацыя гэта ствердзіла ў Варшаве, што адносіны вышэйшых Польскіх да нас-беларусаў—Улад вельмі прыхільныя, самыя шчырыя; што ўсе тыя бязчынствы, якія часта тварыліся ў нас малымі безадказнымі польскімі чыноўнікамі нічога ня маюць супольнага з распараджэньнямі польскіх вышэйшых установаў; што ўсе тыя недасладнасьці, якія выцякаюць з пэўных паміж цэнтрам, а далёкай правінцыяй непаразумленьняў, якія часта без дай прычыны цяжка крыўдзілі нас сялянскі народ—гэтыя непаразумленьні былі такі самаволяй гэтых-жа чыноўнікаў: яны рабілі адно, а дакладывалі другое.

Дэлегацыя З'езду ствердзіла што той народны шлях, па якому наш беларускі народ вядзе Краёвая Сувязь, ёсьць самы правільны, самы пэўны, шлях ядыны, які вядзе нас бязумоўна да лепшай долі, да сьвятлейшага ў будучыне жыцьця, да адбудовы нашага краю—нашай Бацькаўшчыны; дэлегацыя са смуткам у душы сьцьвердзіла, што ўся прычына таго зла, якія мелі мейсца на нашай зямельцы; са стараны польскіх улад што да нас сялян, прычыны таго пагляду на нас як на бальшавікоў і цнотыя зьневажаньні нас—прычыны гэтыя паходзілі ад тых цёмных у нашым краі сілаў, якія сваей шкадлівай дзейнасьцю лепшых адносінаў між імі і палякамі і шкодзілі нашаму сяляскаму жыцьцю. Людзі гэтыя, назваўшы сябе самачынна дзеячамі—правадырамі Беларускага Народу, не на карысьць, а на згубу яго працавалі. Замест каб пашырыць між двумя братнімі народамі згоду і паважаньне, яны дзеячы гэтыя—сеялі розьньнязгоду і ненавісьць, за чужацкія—варожыя грошы валаводзілі нашым жыцьцём—губілі нас. Вынікам такой цёмнай працы з'ялялася тая частковая польская няпрыхільнасьць да ўсяго Беларускага.

Гэтыя „дзеячы" не аб дабры—карысьці беларускага сялянскага народу дбалі, а толькі аб сваіх асабістых матэрыяльных выгадах і аб справе тых варагаў, каму душой і целам яны прадаліся. Народ наш ні якай ад іх карысьці ніколі ня бачыў і напэўна можна сказаць, што ніколі і ня ўбачыць. Іх дзела толькі безчалавечна грызьціся, лаяцца, чарніць і брыдка выдумоўваць—адводзіць народ ад парадку, праўды, ад правільнай адбудовы свайга жыцьця.—Такімі праступкамі жыцьця не наладзіш і сялянскай справе не дапаможаш.

Дэлегаты гэтага з'езду, будучы ў Варшаве напэўна сьцьведзілі і моцна пераканаліся, што лепшая наша будучына, лепшая доля нашага краю, нашага народу, нашай дарагой Бацькаўшчыны—ляжыць толькі у цеснай лучнасьці нашага з польскім народам жыцьці; што ўсе тыя правы, якія нам патрэбны для паправы і адбудовы нашага сялянскага жыцьця—гэтыя шырокія правы для нас—беларусаў—дае нам упярод ісьці! Не нязгода, а якнайбольшая згода і ўзаемнае паважаньне нам патрэбны!

Беларусы! Вы чулі і самі пераканаліся якімі недарэчнасьцямі і пісулькамі вас кармілі ў Вільні — на з'ездзе — тыя прадажныя беларускія няпрыхільнікі ўсяго польскага і як яны нас страшылі, мэтай іх было не памагаць нам разважаць спакойна на з'ездзе нашы народныя патрэбы, а пашкодзіць працы—узбунтаваць нас, пашырыць ненавісьць.

Тымчасам з'езд сваю работу зрабіў, вынес патрэбныя пастановы і гэтыя рэзалюцыі праз сваіх дэлегатаў прадставіў ў Варшаве Польскім Уладам.

Пан Прэзыдэнт Міністраў жычліва прыняў заяву, зложаную яму ад імяні Беларускага З'езду ў Вільні і ў адказе сказаў Дэлегацыі, што згодна з сучасным напрамкам палітыкі Польскага Ураду ў адносінах да беларускай народнасьці, народу гэтаму на ўсім абшары Рэчыпаспалітай Польскай прысьлугоўваюць поўныя правы, забясьпечаныя грамадзянам. Дзяржавы канстытуцыяй.

Паасобныя Міністэрствы будуць апірацца і ў інструкцыях разасланых сваім выканаўчым органам, на словах і ў духу канстытуцыі, як на найсправядлівейшым і ядыным мерніку адносін дзяржаўнай улады да народнай меньшасьці беларускай, якой патрэбы разважаныя будуць пораўня з патрэбамі людносьці польскай. Пажаданьні людносьці беларускай датычна школаў і грамадзянскіх арганізацыяў, культурна-прасьветных, а таксама прасы, маюць у межах іхніх лаяльных адносін да дзяржаўнасьці польскай, поўную свабоду рэалізацыі.

Пры такім зьдзейсьненьні народных пастулятаў народ беларускі мае перад сабою адкрытыя дарогі да пажаданага разьвіцьця.

Гэткія завярэньні Ураду, якія ужо рэалізуюцца ў справе шкальніцтва, зрабіў на дэлегацыю якнайлепшае ўражаньне.

Прадстаўнікі сялянства заявілі Пану прэзыдэнту, што вераць ў шчырасьць пачынаў Ураду і з сваей стараны даложаць усіх высілкаў, каб умацаваць у сваім народзе пачуцьцё польскай дзяржаўнасьці, якое ўважаюць за пэўную падставу да свайго народнага жыцьця.

У адказе на рэзалюцыю З'езду характэрызуючай няшчасьці і нядолю беларускіх уцекачоў, якім пагражае пры павароце катаваньне ў чрэзвычайках, Пан Прэзыдэнт, вельмі шчыра і прыхільна аднёсся да долі гэтых няшчасных і абяцаў якнайхутчэйшую дапамогу і асыгнаваў дэлегацыі на першыя патрэбы уцекачом дзьвесьце тысячаў марак.

Беларусы! З'езд не памыліўся, пайшоў па правільнай дарозе. Скуткі працы гэтага З'езду пачынаюць памалу ўваходзіць у жыцьцё, а ў хуткім часе пры нашай добрай волі споўняцца што да слова. Адчыняюцца школы, зацьверджваюцца арганізацыі, пашыраецца наша Беларускае жыцьцё, наша нацыянальнае адраджэньне. Нас у Варшаве прынялі як людзей і на нас сталі глядзець як на сваіх прыяцеляў. Варожая брахня нічога не памагла — З'езд адбыўся.

У лучнасьці з Польскім народам нам жыць і ўсім, як аднаму ісьці на выбары ў Віленскі Сойм, усімі сіламі старацца, каб нашых прадстаўнікоў у гэтым Сойме было якнайбольш. Да гэтага мы цябе, Беларускі Народзе, заклікаем.

У гэтым Сойме нашы прадстаўнікі,таксама, як на з'ездзе, павінны будуць сказаць аб нашых бедах, аб нашых, патрэбах. аб нашай марнай долі і перад усім дабіцца паправы нашага жыцьця—яны павінны будуць перад усім сьветам выявіць што да гэтага краю сваю волю...

Ня слухай здрадных галасоў, недарэчнай брахні, лаянак і нязьдзейсьненых варожых абяцаньняў, а рабіць творчую работу—ісьці ў Сойм.

Ня крывымі—крутымі сьцежкамі, а простым, роўным і адкрытым шляхам—праз Сойм дамагацца для сябе зямлі, волі і паправы нам нашага жыцьця.

Усе, як адзін, на выбары!

Далоў ворагаў, гнаць ад сябе лгуноў—здраднікаў!

Ісьці правільнай дарогай, ісьці ў Сойм!

Нашых у Сойм якнайбольш!

Старшыня Дэлегацыі ПАВАЛ АЛЯКСЮК

Сябры дэлегацыі: селянін вёскі Сычавічы Сымон Абрамчык, селянін вёскі Талмінава Міхал Каспэровіч.

Прадстаўнік Навагрудчыны Доктар АРСЕНІ ПАУЛЮКЕВІЧ.

Прадстаўнік уцекачоў ПАВАЛ КАЛЕЧЫЦ.

---

*Вільня 31 сьнежня.*

Сымпатыі насяленьня да выбараў ў Віленскі Сойм і інтэрас да іх з кожным днём павялічываюцца.

Навет беларусы з нейтральнага пасу прыслалі ў тымчасовую выбарчую камісію ліст, у якім пішуць: „чуючы аб меючых адбыцца выбарах у Віленскі Сойм і лічучы, што тымчасовая камісія ня помніць аб нас, просім, каб і нам дазволілі выслаць свайго дэпутата для абароны польскасьці Вільні і Віленшчыны".

Гэтыя словы сьведчаць аб тым здаровым палітычным настрою, які пануе ў нейтральным пасе. Жыхары гэтай тэрыторыі добра ведаюць, якія парадкі і як жывуць людзі ў Польшчы і ў Савецкай Беларусі. Яны не адзін раз бачылі ўцекачоў з Савецкай Беларусі і самі чулі ад іх прамовы аб тым, што робіцца ў бальшавіцкім „раю". Яны ведаюць, што пры пананаваньні прадстаўнікоў і катаў, селянін не гаспадар, а нявольнік, ня маючы праў навет распарадзіцца сваім уласным дабром, выпрацаваным потам і крывёю...

З другога боку, яны ведаюць, што парадак і жыцьцё кожнага грамадзяніна і яго уласнасьць у Польшчы забясьпечаны.

Было-б дзіўным, каб ведаючы аб усім гэтым, жыхар нейтральнага пасу, ня марыў-бы аб далучэньні да Польшчы.

✦✦✦✦

# ТЭЛЕГРАМЫ.

ВАРШАВА 30. XII. (А. В.) Сьледчыя аддзелы ад Ваеводства, будуць прылучаны да Старостаў ў Катавіцах, Пшчыне, Рыбніку, Тарноўскіх Гарах, Люблінцы, Цечыне і Бельску.

ЛЕНДАН 30. XII. (А. В.). Непарадкі ў Каіру і Порт-Саідзе растуць. Мейсцовыя нацыяналісты зьніштажаюць ж-дарожныя зьвязкі, а так сама тэлеграфічныя.

ГЭЛЬСІНФОРС 30. XII. (А. В,). Тутэйшае Савецкае пасольства павядамляе, што расейскае рэвакуацыйная камісія будзе адозвана з Фінляндыі, і так сама фінская рэвакуацыйная Камісія будзе адозвана з Расеі. Усе капіталы Савецкай Расеі, якія знаходзяцца ў фінляндскіх банках, ўрадамі ужо ўзяты, і адносіны паміж адной і другой стараной вельмі не спакойныя.

МАСКВА 30. XII. (А. В.). Савецкі камісарыят аправізацыі паведамляе, што ў ва ўсей Расеі, апроч Украіны да гэтага часу ўзята толькі 53 проц. абазначанага,

